# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 50 (1648) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 13 СНЕЖНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.




### ЧЫРВОНЫ МАТРОС

Аляксандр Першка нарадзіўся 25 ліпеня 1897 г. у рабочай сям'і ў Гурным каля Гайнаўкі. Вучыўся ў чыгуначнай школе. У гадах 1915-1917 служыў у рускім ваенным флоце. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі і да 1918 года быў на вучэбным судне „Нарадаволец". Разам з іншымі сябрамі-матросамі штурмаваў Зімовы палац. Затым служыў у войсках аховы чыгункі ў Балашове Саратаўскай губерні, пасля — у 15-м Балашоўскім палку Чырвонай Арміі. У 1920 г. на пасадзе сакратара губернскага выканаўчага камітэта ў Тамбове. У гадах 1918-1920 быў членам Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў).

Вярнуўшыся на радзіму, працаваў леснікам. З 1925 г. належаў да Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, у 1926-1927 гадах дзейнічае ў Беларускай сялянска-рабочай Грамадзе.



Пасля вызвалення А. Першка — член Польскай рабочай партыі, затым Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Узнагароджаны Вярхоўным Саветам СССР Ордэнам Чырвонай Зоркі, а таксама высокімі адзначэннямі Народнай Польшчы.

### ЗМАГАР

Уладзіслаў Бянецкі, нарадзіўся ў 1888 г. у горадзе Беластоку ў сям'і рабочага.. Працаваў ткачом у адной з беластоцкіх фабрык. З 1904 г. дзейнічаў у маладзёжнай арганізацыі пры партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, затым да 1917 г. належаў да Саюза сацыялістаў-рэвалюцыянераў максімалістаў. Служыў у царскай арміі. У 1915 г.

(Працяг на стар. 2)



Аляксей Марачкін у майстэрні.




## ГІСТОРЫЯ, СУЧАСНАСЦЬ І — МЫ

Па сведчанні скандынаўскіх сагаў крывічы вельмі даўно заснавалі места Полацк, аднак ва ўсходнеславянскім летапісе „Аповесці мінулых гадоў" ён упамінаецца значна пазней, толькі пад 862 годам. А гэта значыць, што з той пары прайшло 1125 гадоў. Таму з гэтай нагоды сёлета на працягу верасня і кастрычніка ў будынку полацкага Багаяўленскага храма, дзе зараз размяшчаецца карцінная галерэя горада, экспанавалася мастацкая выстаўка твораў жывапісца Аляксея Марачкіна і скульптара Аляксандра Шатэрніка.

Экспазіцыя выстаўкі выклікала незвычайную цікавасць як сваёй гістарычнай тэматыкай, так і мастацкімі творамі па матывах беларускага фальклору, паэзіі класікаў літаратуры, ду-

(Працяг на стар. 2)




22 лістапада адбылося VII пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ. Старшыня ГП д-р Аляксандр Барщэўскі пасля ўступнага слова і прывітання ўдзельнікаў пленума (членаў ГП і запрошаных гасцей з прадстаўнікамі ўлад) уручыў Сцяпану Копу ліст-падзяку і кніжную ўзнагароду ад імя ГП з нагоды дваццацігоддзя яго мастацкага кіраўніцтва беларускім харавым калектывам у Гарадку і шматгадовага кіравання хорам гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.

Затым старшыня ГП уручыў Граматы з нагоды XXX гадавіны БГКТ д-ру Уладзіміру Юзвюку, Адзе Чэчуга і Галене Тапалянскай.

Пасля гэтага намеснік старшыні ГП Кастусь Майсеня ўручыў прыгожа афармленыя падзякі 5 асобам, якія на будову Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы ахвяравалі больш 5 тыс. зл.

Наступным пунктам пасяджэння было выступленне сакратара ГП Віталія Лубы аб заданнях гурткоў і аддзелаў у справаздачна-выбарнай кампаніі перад XI з'ездам БГКТ. „Справаздачна-выбарную кампанію, — гаварыў дакладчык, — нельга абмяжоўваць толькі фармальна-статутовымі рамкамі. Павінна яна быць напоўнена мерытарычным зместам, шырокай і канструктыўнай дыскусіяй над вынікамі працы Таварыства за апошнія 4 гады. над вызначэннем асноўных напрамкаў дзейнасці ў будучым. Праблемаў, над вырашэннем якіх трэба задумацца, у дзейнасці Таварыства ёсць шмат. Сённяшняя вёска страшэнна пусташэе, мала ў ёй моладзі. Беларуская моладзь пераязджае працаваць і жыць у гарады. Як працаваць з вясковымі гурткамі, як актывізаваць іх дзейнасць, якія прыняць формы працы з імі — гэта адна група праблем. Другая — як уцягнуць у арбіту дзейнасці ў беларускім руху беларускае насельніцтва ў гарадах, бо яно ж цяпер становіцца базай для БГКТоўскай працы, як ператварыць пасіўны ўдзел у актыўную, стваральную працу ў рамках Таварыства гэтай групы нашай грамадскасці".

У гэтым дакладзе былі акрэслены тэрміны справаздачна-выбарных сходаў у гуртках і аддзелах БГКТ, дакладна сказана, як яны павінны падрыхтоўвацца, колькі павінна быць выбрана дэлегатаў на канферэнцыі аддзелаў і на З'езд БГКТ, які адбудзецца ў маі 1988 года.

Далей на павестцы дня была ацэнка тыднёвіка „Ніва". Д-ру Уладзіміру Юзвюку даручана было правесці аналіз адказаў чытачоў на 12 пытанняў, змешчаных на старонках „Нівы". Датычылі яны зместу і ўзроўню публікацый журналістаў „Нівы" і яе супрацоўнікаў, уздзеяння „Нівы" на чытачоў і г.д.

Аналіз гэтага апытальніка даў пэўны погляд аб тым, як успрымаецца чытачамі наша адзіная ў Польшчы беларуская газета (будзе ён змешчаны ў „Ніве).

Другім дакладчыкам аб „Ніве" быў яе журналіст, сакратар партыйнай арганізацыі Віктар Рудчык.

Як у першым, так і ў другім дакладзе аб „Ніве" выступала думка, што зрабіць, як працаваць, каб павялічыць тыраж „Нівы", каб выходзіла яна не ў граніцах 5 тысяч экземпляраў разавага выдання, а каб колькасць яе чытачоў была 9 або прынамсі 8 тысяч. Удзельнікі пленума дыскутавалі над тым,

(Працяг на стар. 5)

 

## НА МЯЖЫ

# АБ ДАЧЦЭ СТАЛІНА

Большасць чытачоў „Нівы“, праўдападобна, ведае, што дачка Сталіна Святлана Алілуева многа гадоў таму назад выехала з Савецкага Саюза на Захад, дзе апублікавала кнігі: „Двадцать писем к другу“ і „Только один год“, у якіх паказала розныя аспекты савецкай рэчаіснасці ў часы панавання свайго бацькі. Некалькі гадоў таму Святлана Алілуева вярнулася ў Савецкі Саюз. Не ведаю, колькі ў гэтым праўды, але я чуў, што атрымала ў Маскве вельмі добрую кватэру і 400 рублёў пенсіі ў месяц. Для прыкладу, магу сказаць, што прафесар універсітэта атрымлівае няцэлыя 200 рублёў пенсіі. Нягледзячы на гэтыя, здавалася б, добрыя ўмовы, Святлана Алілуева зноў эмігрыравала ў Амерыку. Гэтым аднак разам не спадарожнічала ёй шуміха журналістаў і палітыкаў. Хто як хто, але яны ведалі, што Святлана Алілуева з'яўляецца ўжо свайго роду выціснутым лімонам, якім на Захадзе ніхто не зацікаўлены. Знаходзячыся ў ЗША, сутыкнуўся я ў амерыканскай прэсе з інфармацыяй, якая поўнасцю пацвярджае вышэй сказанае. Хачу прывесці цэлы тэкст, прысвечаны дачцэ дыктатара:

„Фінансавыя клопаты Святланы Алілуевай.

Газета „Вашынгтон пост“ паведамляе, што апошнім часам вашынгтонскія сябры 61-гадовай дачкі Сталіна Святланы Алілуевай атрымліваюць ад яе лісты, у якіх яна наракае на свае фінансавыя абмежаванні. „Вы разумееце, міласціну выпрашваць мне цяжка, — піша Алілуева, — якая жыве сёння ў Спрынг-Грын, штат Вісконсі. пад прозвішчам Лана Пітэрс. — Такіх клопатаў, як цяпер, я яшчэ ніколі не перажывала“.

Калісьці кнігі Алілуевай карысталіся ў ЗША вялікай папулярнасцю, але сёння па словах Алілуевай выдаўцы не цікавяцца тым, што яна піша. Яе апошнюю кнігу ўдалося надрукаваць у палове 80-х гадоў толькі ў Індыі. „Пасля майго паўторнага прыезду з СССР у 1986 годзе (мы правялі там паўтара года, я паехала туды да дзяцей) да мяне адносяцца тут варожа“, — піша Алілуева — аўтар папулярных кніг „Двадцать писем к другу“ і „Только один год“, надрукаваных хутка пасля таго, як, знаходзячыся ў Індыі, папрасіла яна права палітычнага прытанішча ў ЗША.

Алілуева піша сябрам, што жыве ў даўгах і што ў яе асталося ўсяго паўтары тысячы долараў: „Мае ўласныя грошы распушчаны былі маім мужам і яго сынам. Ён ажаніўся са мной толькі з-за маіх грошай“. Алілуева баіцца, што мясцовыя ўлады канфіскуюць яе дом з прычыны задоўжанасці. Паводле пасведчання сяброў, дом яе вельмі скромны, а машына надта старая.

Яе дачка Ольга вучыцца ў квакерскай школе ў Англіі. Бацька Ольгі, былы муж Алілуевай, — амерыканскі архітэктар Уэльсі Пітэрс.“

Вось і ўвесь змест інфармацыі. Па сутнасці ніякі каментарый тут непатрэбны. Зразумела, што не адна Алілуева пакінула айчыну і не адна яна некалькі разоў выходзіла замуж і не адна яна мае фінансавыя клопаты. У сувязі з тым можна было б і не каментаваць яе прызнанняў і нараканняў. З фактаў вынікае адназначна, што Алілуева выразна не радзіць са сваім уласным жыццём. Тым больш дзіўна, што ў сваіх кнігах даволі катэгарычна, не без маралізатарска-дыдактычных схільнасцей, выказвалася аб справах агульнадзяржаўных. Уяўляю сабе, што прадстаўляла б сабой дзяржава, якой кіравала б Святлана Алілуева. А што датычыць выбару Алілуевай жыццёвага шляху, дык хацелася прывесці вядомую прыказку: як пасцелеш, так і выспішся.

**Алесь Барскі**

---

(Працяг са стар. 1)

## 70

## МЫ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

засуджаны на 8 год катаргі за рэвалюцыйную агітацыю ў штабе XII арміі. Ад 31 красавіка 1917 г. ён — член Расійскай сацыял-дэмакратычнай партыі (бальшавікоў), член Выканаўчага камітэта Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў у Маскве (1917-1918 гады), затым інструктар у штабе Маскоўскай ваеннай акругі (1918-1919 г.г.). З 8 ліпеня да 23 ліпеня 1918 г. і з лістапада 1918 г. да пачатку 1919 г. быў сакратаром аперацыйнага аддзела Камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй, ліквідаваў контррэвалюцыйныя банды ў Яраслаўлі, Разані, Тамбове, Туле. У. Бянецкі быў адным з заснавальнікаў у 1919 г. Беластоцкага камітэта Камуністычнай рабочай партыі Польшчы. Працаваў у гадах 1919-1920 начальнікам палітычна-асветнага аддзела ў Ваенным раённым камісарыяце ў Ліпецку Тамбоўскай губерні. У жніўні 1920 г. працаваў у Польскім бюро Цэнтральнага камітэта Расійскай камуністычнай партыі бальшавікоў.

**Б. Нікіцюк**

---

### ТОЛЬКІ ДЛЯ ЖАНЧЫН

Ці ведаеце, што станік ці ліфчык — адным словам, бюстгалтар — рэч якую жанчыны носяць на грудзях і без якой цяжка ўявіць сабе наша жыццё, існуе толькі... 75 год? Наш станік прыдумаў у 1912 годзе немец Сігізмунд Ліндаўэр. Ён жа і выпрадукаваў (пашыў) яго на сваёй машыне.

Новы станік быў лёгкі і прыемны. Ён гэтым і адрозніваўся ад цяжкага — да 25 кілаграмаў важачага гарсета, які насілі жанчыны раней, але толькі жанчыны з вышэйшых сфер. Уся маса жанчын не насіла нічога. (авв)

---

## ГІСТОРЫЯ, СУЧАСНАСЦЬ І МЫ

(Працяг са стар. 1)

хоўнай спадчыны народа. Гасцей захапіла кагорта выдатных асоб з гісторыі Беларусі і Літвы, часоў Кіеўскай Русі, сярэднявечча, эпохі Рэфармацыі, адраджэнскага перыяду і сучаснасці. Многім надта ж спадабаўся вобраз Кірылы Тураўскага ў жывапісе і ў скульптуры. Адчувалася, што знакаміты асветнік увесь у руху думак, засяроджанасці. Здавалася, што хутка ўсе пачуюць яго голас — яго „словы“ і прытчы. Стваралася ўражанне, што жывапісны і скульптурны вобраз Кірылы Тураўскага не супярэчаць адзін другому, а толькі ўдала дапаўняюць і, зразумела, арганічна дапамагаюць лепш зразумець яго выдатную ролю ў гісторыі беларускага народа і ўсяго славянства.

Глыбокае ўражанне зрабілі творы Аляксея Марачкіна, прысвечаныя раскрыццю вобразаў Рагнеды, Ефрасінні Полацкай, вялікага князя Вітаўта, Францішка Скарыны, Міколы Гусоўскага, Паўлюка Багрыма, Кастуся Каліноўскага, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Луцкевіча, Янкі Купалы, Цёткі, Язэпа Драздовіча. Дарэчы адзначыць, што сімволіка-алегарычныя карціны Язэпа Драздовіча, мастацкае ўзнаўленне ім гістарычнага мінулага праз стварэнне рэалістычных запамінальных вобразаў выдатных людзей краю зрабілі значны ўплыў на фарміраванне мастакоўскай пазіцыі Аляксея Марачкіна, выхаванне і станаўленне ягонага таленту. Так і хочацца прыгадаць споведзь-прызнанне: „Добры дзень, Дзядзька Язэп! Добры дзень, вандроўнік апантаны! Прысядзь на прыдарожны сівы камень. Адпачні... I нетаропка, паволі раскрываеш ты скарб свой, поўны таямніц і цудаў. Не адну легенду і паданне прыгадаеш, што запісаў ад старых людзей. Згадаеш слаўнае мінулае роднага краю; храбрых князёў полацкіх, славутага земляка нашага — асветніка Францішка Скарыну, успомніш сяброў сваіх, што дзялілі з табою радасць і смутак... Лаўлю кожнае слова тваё. Іду па тваіх сцежках-успамінах, узнімаючыся на крылах тваёй фантазіі да планет, далёкіх і таямнічых, а потым трапляю ў абжытыя сялянскія хаты, дзе заўсёды ты быў пажаданым госцем...“ Гэтыя думкі-словы належаць Аляксею Марачкіну. Яны ўзніклі ў яго, калі вандраваў па родных сцяжынках Язэпа Драздовіча.

Аляксей Марачкін, як і яго духоўны настаўнік Драздовіч, шмат увагі ўдзяліў творам, у якіх імкнуўся глыбока рас-


Алесь Шатэрнік. „Мікола Гусоўскі“, 1980 г., Мінск, метал.

крыць харавство беларускай прыроды. Наведвальніка захапляюць яго палотны, прысвечаныя порам года. Гэта паэтычныя карціны „Кліч вясны“, „Крынічка“, „Абуджэнне“, „Час, калі цвіце купена“, „Палявыя кветкі“, „Дажджлівае лета“, „На балоце“, „Купальскім ранкам“, „Дрэвы“, „Зімовы дзень“, „Успамін аб маёй вёсцы“, „Дарога“. Мастак хораша паказаў помнікі роднага краю, раскрыў іх вечную прыгажосць, якая ідзе ад народнай душы. Вабяць старыя святыні „Спаская царква ў Полацку“, „Касцёл у Лужках“, „Касцёл у Германовічах“. Лірычнасцю палоняць „Наваградскае замчышча“, „Старая казка“, „Роздум пра Дзісеншчыну“, „Рэчка Мнюта“, „Піліпава вярба“, „Дарога ў школу“, „Касі каса, пакуль раса“, „Мая хаціна“, „Ірына“, „Мае бацькі“, „Купальскія чары“, „Жаночы партрэт“, „Сведкі мінуўшчыны“, „Жанчына з бульбай“, „Нацюрморт старых ліхтароў“, „Алена з Прошчыц“. На роздум наводзяць палотны па матывах паэзіі Максіма Багдановіча „Ля сіняй бухты“, „Пагоня“, „Веранiка і Максім“, „Страцім лебедзь“, рэвалюцыйных радкоў Цёткі „Нас кавалі ў полымі“.

Добраахвотны ўплыў творчасці Язэпа Драздовіча, у якога было нямала разбярскіх прац, адчуў і скульптар Аляксандр Шатэрнік. Пра гэта нагадвае створаны ім вобраз Язэпа Драздовіча на помнік, які ўстаноўлены на магілцы нястомнага падарожніка на роднай яму Дзісеншчыне.

Вялікае пачуццё да духоўнай спадчыны свайго народа, яго гістарычнага мінулага натхніла скульптара Аляксандра Шатэрніка на стварэнне праекта помніка славутаму паэту-лацiністу эпохі Адраджэння Міколу Гусоўскаму, „сюжэтна-тэматычнай кампазіцыі „Дрыгавічы“ і „Крывічы“, манументальнай скульптуры „Адвечнае“, вобразаў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Яўгена Куліка.

Выстаўка жывапісных палотнаў Аляксея Марачкіна і скульптурных прац Аляксандра Шатэрніка ў старадаўнім Полацку — калысцы гісторыі беларусаў — мела шырокі поспех у наведвальнікаў і таму стала важнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі. Сам змест мастацкіх твораў выстаўкі настолькі глыбокі для роздуму, што міжвольна пачынаеш задумвацца: вось людзі жылі, пакінулі добры след на зямлі, у гісторыі свайго народа, а значыць і ў гісторыі ўсяго чалавецтва.

**Юры Туронак**



 

 




## ВАРТА КУПІЦЬ „ПАНА ТАДЭУША“

Калі я даведаўся, што ў БССР выйшла паэма А. Міцкевіча „Пан Тадэуш“ у перакладзе Я. Семяжона, мне вельмі захацелася дастаць гэтую кніжку. Даведвалася ў кнігарні Дома савецкай культуры ў Варшаве і ў „Універсусе“, але, на жаль, не было. Абрадавалася, калі прачытала ў карэспандэнцыі А. Барскага, што ў нашай краіне ёсць такое сімпатычнае выдавецтва „Pojezierze“, якое выдала гэтую паэму на беларускай мове ў перакладзе Б. Тарашкевіча.

Я абавязкова хачу дастаць гэтую кніжку. Усім зацікаўленым магу сказаць, што варта яе мець. Была ў нас ужо магчымасць сутыкнуцца з гэтым перакладам, калі літаратурны альманах № 2 з 1971 года друкаваў IV быліну гэтай паэмы. Якое багацце слоў! Па гэтай кніжцы можна дасканала вучыцца беларускай мове. А. Барскі слушна падказвае, што гэтая кніжка павінна знаходзіцца ў кожнай школьнай бібліятэцы, у кожным культурным беларускім доме. Нас, у большасці і польскамоўных беларусаў з Беласточчыны, але не цураючыхся роднага. гэты пераклад пераконвае, што вялікая сусветная літаратура можа быць прадстаўлена на беларускай мове без ніякай шкоды для яе прыгажосці і мастацкай вартасці.

Думаю, што ГП БГКТ павінна заняцца распрадажай гэтага твора. Школы і бібліятэкі павінны накіроўваць свае заяўкі на куплю гэтай кніжкі. Прыватныя асобы таксама. Я першая выступаю з просьбай дапамагчы набыць мне гэтую кніжку.

**А. Анішэўская**

## НЕ ТАКІЯ МЫ ЛЮДЗІ...

А. Барскі напісаў аб цяжкасцях „Pojezierza“ з распродажам „Пана Тадэуша“ ў Тарашкевічавым перакладзе. У выдавецтве ляжыць 2500 экземпляраў гэтай цудоўнай кнігі і яно не ведае, як яе пазбыцца. Амаль моліць: дапамажыце!

Тое, што мы ў класіцы нічога не разумеем і наогул літаратурай мала цікавімся, я даўно ведаў, нават пісаў аб гэтым. Значыць, слабыя мы духам людзі. Як мужыкі сто гадоў назад. Няпраўда, мужыкі былі цёмныя, значыць, непісьменныя. Мы ж пісьменныя і багатыя, а на вартасную кніжку скупімся. Але на другое — гарэлку, віно, папяросы, лішнія анучкі — шчодрыя. Як усё гэта зразумець? Трубім часта, што нас у Польшчы звыш паўмільёна, а тут на табе! Дык тыраж 10.000 павінен расплысціся ўмомант. Але не ў нас, скупендзеяў. Не такія мы людзі.

**М. Панфілюк**

## АФАРЫЗМЫ

Веды ад навучання прыходзяць.
А культуру чалавек родзіць.

*

Гаворыш да чорта святым языком,
А ён на цябе спаглядае быком.

**Іосіф Карпюк**






*Харошча. Вуліца Міцкевіча. Мал. Уладзіслава Петрука.*

## З ВЁСКІ ЦІ З ГОРАДА?

Лік вучняў з вёскі, якія паступаюць у Беларускі ліцэй у Бельску, змяншаецца.

Ліцэй гэты, як ведаем, заўсёды ахвотна прымаў вясковую моладзь, даючы ёй шырокія магчымасці выхаду ў свет. І заўсёды вясковая моладзь ахвотна запаўняла школьныя залы. Былі часы, калі моладзь з вёскі дасягала 70 прац.

А вось на новы школьны год 1987/88 набор быў іншы. Сялянскага паходжання было 110 асоб, рабочага — 151, інтэлігенцкага — 126.

Аб чым гэта сведчыць?

Па-першае: змяншаецца лік сялян, што ёсць правідловай з'явай у сучасным жыцці і сведчыць аб цывілізаваным развіцці грамадства. Па-другое: у Бельску, як і ў іншых гарадах, рабочае ці інтэлігенцкае паходжанне маюць маладыя людзі ўжо ў другім ці трэцім пакаленні — іх бацькі або дзяды выводзіліся з вёскі. Па-трэцяе: дэмаграфічная сітуацыя на нашых вёсках такая, што не родзяцца там дзеці, бо на вёсцы застаюцца толькі старыя. Пачацвёртае: Беларускі ліцэй мае высокі ўзровень навучання і паступаюць у яго вучні гарадскіх пачатковых школ, ды вучні найлепшыя.

Асноўнай базай для ліцэя з'яўляецца школа нумар 3 у Бельску, дзе беларуская мова навучаецца як абавязковая і дзе ўзровень дыдактычна-выхаваўчы таксама самы высокі ў горадзе. Прыходзяць у ліцэй і вучні з іншых бельскіх школ: нумар 2, 1, 4.

З меншых мясцовасцей найбольш вучняў прыходзіць з Орлі, Храбалоў, Пасынкаў. Але вось у новым школьным годзе ў ліцэй прыйшла дзяўчына аж з Сямяціч і штодзённа даязджае ў школу, што не перашкаджае ёй добра вучыцца. Цікавая дзяўчына!

**(вв)**

## ДАЙЦЕ БЕЛАРУСКІ СПЕЎНІК!

Настаўніца беларускай мовы школы нумар 3 у Бельску і аднačасова метадыст па гэтай мове на бельскую школьную акругу Тамара Русачык на адным сходзе сказала: „Проста сорамна, што дагэтуль мы не выдалі беларускага школьнага спеўніка“. Так, з рэпертуарам для школьнай самадзейнасці ў нас проста бяда. Асабліва ж цяжка з песнямі. Сапраўды сорамна. Выдалі ж мы многа паэтычных зборнікаў, выдалі некалькі альманахаў, выдавалі навуковыя зборнікі, выдаем календары. А вось с п е ў н і к а ані для дзяцей, ані для дарослых не выдалі і, праўду сказаўшы, не вельмі пра гэта думалі ды думаем. А справа школьнага беларускага спеўніка вырастае перад намі як перашкода, і калі яе не пераможам, збеднім песенны школьны рух, які так папулярны цяпер у школах, але які не будзе развівацца без рэпертуару.

Хто тут глухім аказаўся? Усім вядома музыкальнасць беларусаў і іх любоў да песні. А што гаварыць пра дзяцей? Пра настаўнікаў, якія, сабе толькі вядомымі спосабамі, вышукоўваюць песні, развучваюць іх, рыхтуюць дзяцей да конкурсу, да выступленняў на школьных урачыстасцях?

Проста страшна робіцца. За 30 год не паявіўся хоць які-небудзь беларускі спеўнічак? Чаму?

Скромная выдавецкая дзейнасць ГП БГКТ, як не круці, але павінна змяніць профіль. Перш за ўсё выдавайма тое, што проста неабходна, без чаго многае памрэ.

Найперш: беларускі школьны спеўнік! А таксама спеўнік для дарослых! Ведаем, што гэта справа неадкладная і з такім фактам трэба лічыцца!

**(вв)**

## ЦЭНЫ, ДАТАЦЫІ І ЖЫЦЦЁ

Паўсюдна чуваць зараз гаворка аб цэнах, датацыях і нашым жыцці — як усё гэта ўкладзецца ў наш дзень звычайны. Прэсавае бюро ўрада, інфармуючы грамадзян Польшчы аб асновах палітыкі ў галіне цэн і даходаў насельніцтва, сцвярджае:

*„Цяперашняя сістэма цэн — дрэнная. Ёсць многа цэн, ніжэйшых ад коштаў прадукцыі і тавараабароту. У гэтым выпадку тавар, быццам бы, выдаецца таннейшым. У сапраўднасці, аднак, заўсёды мы ўсе плацім поўную яго цану, бо датацыі, якія папаўняюць яго сабекошт, таксама паходзяць з нашай кішэні (...), бо крыніцай для накаплення грошай на датацыі з'яўляюцца павышаныя падаткі“.*

Найбольш вядомай дзялянкай нашай нацыянальнай гаспадаркі, якая дагэтуль сваё існаванне і эканамічны прагрэс галоўным чынам абапірала на дзяржаўных датацыях, з'яўляецца малочная прамысловасць. І таму я вырашыў сустрэцца са старшынёю **Беластоцкай малочнай спулдзельні**, якая абслугоўвае амаль поўны даўнейшы Беластоцкі павет уключна з горадам Беластокам. Гэтай спулдзельні падпарадкаваны таксама малачарні ў Заблудаве і Міхалове. Старшыня Зыгфрыд




Бароўскі рашуча заявіў мне, што яму як шэфу ўстановы, якая займаецца скупкай і перапрацоўкай малака, дзяржаўныя датацыі да шчасця непатрэбны.

— Датацыі, — кажа ён, — трэба перасунуць у зарплату, каб кожны чалавек, хто не лянівец, змог зарабіць столькі, каб хапіла яму на сапраўдную цану кожнага тавару, у тым ліку і бутэлькі малака ці кілаграма сыра або тварагу...

Калі прыгадаўся нам гэты ж тварог, дык і прыклад хай будзе з тварагом. Знайшоў я яго ў гэтай урадавай інфармацыі аб цэнах і даходах на другім этапе гаспадарчай рэформы. Пішуць там: „(...) *кілаграм тлустага тварагу каштуе ў краме 100 зл., а кошт адной толькі сыравіны, неабходнай для вырабу гэтага кілаграма тварагу — 192 зл.*“

Сапраўдны кошт яшчэ вышэйшы, бо яго складаюць многія іншыя адзінкі дабавачных коштаў, у першую чаргу зарплата для рабочых, занятых у працэсе вытворчасці гэтага ж тварагу ды амартызацыя машын і транспарту, якім яны карыстаюцца. Таксама справа маецца з малаком, ды з усімі іншымі прадуктамі і вырабамі, вытворчасць якіх абумоўлена дзяржаўнымі датацыямі.

— Літр малака ў скупцы, — паясняе старшыня З. Бароўскі, — каштуе нам у сярэднім 42 зл.

— Чаму — „у сярэднім“? — перапыніў я старшыню.



 

## НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**1. УЗНІКНЕННЕ І РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ.**

**3. Помнікі пісьменнасці Вялікага княства Літоўскага.**

У XIII — пачатку XIV ст. амаль усе сённяшнія беларускія землі і землі ўкраінскія апынуліся ў Вялікім княстве Літоўскім, а паўночна-ўсходнія і паўднёвыя землі былой Кіеўскай Русі — пад уладай татара-манголаў. У такой сітуацыі, у зусім новых гістарычных умовах пачалі складацца тры ўсходнеславянскія народнасці: беларусы, украінцы і рускія, а разам з імі і тры ўсходнеславянскія мовы: беларуская, украінская і руская.

Сённяшняя назва Беларусь (Белая Русь) з'явілася ў XIV ст.

Пісьменнасць XV ст. на Беларусі — гэта беларускае пісьменства. Мова яго сваімі фанетычнымі, граматычнымі і лексічнымі асаблівасцямі істотна адрозніваецца ад мовы агульнаўсходнеславянскай перыяду X-XII ст. ст.

Беларуская мова склалася на працягу XIV-XVI ст. ст., калі беларускія землі ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага. Яе асноваю была ўсходнеславянская мова, з якой у беларускую мову перайшлі многія фанетычныя, марфалагічныя рысы, а таксама і лексічныя сродкі (словы). Да найважнейшых фанетычных рыс усходнеславянскай мовы, якія выступаюць і ў беларускай мове, трэба залічыць перш за ўсё паўнагалоссе: ворогъ — ворат, середа — серада; узнікненне ч з былых tj kt: свяча, пячы; пачатковае спалучэнне rot з былога ort: розум, розніца і т.д.

У беларускай мове паявіліся такія новыя моўныя рысы, дзякуючы якім беларуская мова і выдзелілася з мовы агульнаўсходнеславянскай. Гэтыя моўныя рысы паказваюць на сувязь старабеларускай літаратурнай мовы з жывой мовай беларускага народа. Пералічу толькі некаторыя, самыя істотныя фанетычныя рысы: аканне і яканне, дзеканне і цеканне, афрыката дж, фрыкатыўны г, фанетычнае падаўжэнне зычных, зацвярдзелы р, зацвярдзенне шыпячых гукаў, пераход в, у, л у нескладовае (ў), прыстаўныя зычныя в, г, зацвярдзенне губных гукаў у канцы слоў. Гэтыя фанетычныя рысы характэрныя і сучаснай беларускай літаратурнай мове.

У Вялікім княстве Літоўскім беларуская мова была мовай дзяржаўных устаноў: на ёй пісаліся акты і граматы, сеймавыя пастановы і іншыя дакументы. Беларуская мова выкарыстоўвалася не толькі на беларускіх землях, але і на землях этнаграфічнай Літвы, выкарыстоўвалася не толькі беларусамі, але і літоўцамі.

Вялікае значэнне ў развіцці старажытнай беларускай мовы, а перш за ўсё яе літаратурна-пісьмовай формы, адыграла кнігадрукаванне, распачатае беларускім вучоным Францішкам Скарынам — першым кнігадрукаром на ўсходнеславянскіх землях. У XVI ст. за Скарынам з'явіліся выдатныя дзеячы старажытнай беларускай культуры і друкары: Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Пётр Мсціславец, браты Мамонічы і іншыя. Кнігі выпускаліся ў друкарнях, якія ўзніклі ў Нясвіжы (1562), Цяпіне (1565), Заблудаве (1568), Заслаўі (1571), Лоску (1574), Слуцку (1580), Любчы (1597), а крыху пазней у Ашмяне Муравановай, Магілёве, Менску, Куцеіне (каля Оршы), Буйнічах (каля Магілёва), Бялечніках, Гародні, Супраслі (каля Беластока), Пінску і іншых гарадах і мястэчках.

Буйнаму развіццю беларускай мовы спрыяла таксама і тое, што літоўская пісьменнасць, г.зн. пісьменнасць на літоўскай мове, пачалася толькі з сярэдзіны XVI ст.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Марыльку я сустрэў 2 гады таму назад. Здарылася гэта якраз тады, калі яна была ў роспачы: кінуў яе муж, а на руках было яшчэ малое дзіця. І неяк так адразу сталася, што мы з ёю сышліся, і я быў шчаслівы. У бацькоў Марылькі, да якіх яна вярнулася пасля разводу, была цудоўная віла, і яны з радасцю прынялі і мяне да сябе.

Мы былі з Марыляй у адным узросце, вось сёння нам па 24 гады, але вельмі хутка неяк высветлілася, што ёсць у нас вялікая розніца ў поглядах на жыццё.

Марыля, хаця і не старэйшая за мяне, да жыцця ўжо падыходзіць зусім інакш, найчасцей з пазіцыі маці. Усё клапоціцца пра дзіця, усё яму мые, корміць яго, гуляе з ім — адным словам, усё круціцца вакол маленькага сыночка. Я ўжо часамі адчуваю сябе тут нават непатрэбным. Вельмі часта ў нас пачынаюць узнікаць сваркі — яна хацела б і мяне ўцягнуць ва ўсю гэту сваю валакіту! А я ж хачу аднаго: хачу кахання, якое не абмяжоўвала б маёй свабоды. Іншага кахання не хачу! Хачу кахаць, хачу тварыць, хачу быць незалежным і сустракацца, як і раней, са сваімі сябрамі.

А найгоршае ва ўсім гэтым тое, што Марыльчыны бацькі прыціскаюць мяне, каб жаніўся. Ну, я наогул нічога не маю супраць гэтага. Але чаму ўжо цяпер? Мы ж яшчэ маем перад сабой столькі гадоў жыцця! Чаго спяшацца ў гэтую пастку? Я ж і так ужо часамі адчуваю сябе, быццам птушка ў залатой клетцы... Парай, Сэрцайка, што рабіць, мо табе ўдасца прыдумаць нешта сэнсоўнае.

**Пятрук**

Пятрук! Чаму ты лічыш, што калі вы возьмеце шлюб, то ты апынішся ў пастцы?! Гэта ж тады большасць людзей знаходзілася б „у пастцы". Усё ж такі людзі сустракаюцца, кахаюцца, жэняцца, а лагічнай кансеквенцыяй усяго гэтага з'яўляюцца дзеці, супольныя дзеці — найбольшая радасць нашага жыцця і найбольшы боль — калі дзіця нарадзіцца не можа.

Пятрук! Ты да гэтага яшчэ, бадай, не дарос, а твая Марылька дарасла ўжо. Калі кахае яна свайго сыночка, то не абазначае гэта, што не кахае цябе. Ты б хацеў адно гуляць, кахаць, тварыць, а яна, думаеш, не хацела б?! Ды толькі ў яе, апрача гэтага, ёсць яшчэ і абавязкі, якія, як табе здаецца, цябе не павінны датычыць. А чаму? Ты ж прыйшоў у іхнюю хату, жывеш, як родны муж, гаворыш, што нават шчаслівы — дык і дзіця ж не павінна быць табе чужое. Ну, так, але яно ўсё ж не тваё, і ўсе клопаты, звязаныя з яго выхаваннем, — гэта, паводле цябе, толькі яе „валакіта", а не ваша радасць.

Ты жывеш з жанчынай і хочаш, каб твае сябры не змяніліся. А трэба ж табе зразумець, што ўсё радзей будзеш сустракацца са сваімі былымі аднакласнікамі, а ўсё глыбей будзеш уваходзіць у круг яе і вашых агульных сяброў і знаёмых.

Калі ты яшчэ не зразумеў гэтых простых ісцін, хаця ахвотна перайшоў жыць да Марылі, а фактычна ў вілу яе бацькоў, дык грош табе цана як мужу. Сапраўды жаніцца табе, мусіць, рана — ты проста прыгрэўся пры цёпленькай жанчыне з вілай, абавязкаў жа браць на сябе — нават і не думаеш. Дык навошта табе жыць з ёю?! Вяртайся, хлопча, дахаты, або ляці, пархай у новую „клетку" — хаця не будзе яна залатая, туды ты, можа, прынясеш іншае, сапраўднае каханне.

**Сэрцайка**

(Працяг са стар. 7)

# СУВЯЗНЫ БАДАВЕЦ

сцвярджае селянін. — І гэта яшчэ болей пераконвала немцаў, што мы з'яўляемся былымі вязнямі, а яны, гітлераўцы, нашы дабрадзеі, вызваліцелі, дык нас прапускаюць.

Зміцер Бадавец шчасліва вярнуўся на свой хутар за вёскай Мікулічы і зноў стаў гаспадарыць на сваім небагатым палетку.

— Я ў палітыку асабліва не ўмешваўся, — шчыра прызнаецца селянін. — Былі тут у нас іншыя палітыканы, для прыкладу, Валодзя Вішанка або Васька Наумчык. Я іх ведаў. Яны прыналежалі да КПЗБ. І ў іншых тутэйшых суседніх вёсках, значыць, у Рагачах і Мядзвежыках, таксама дзейнічалі ў даваенны час ячэйкі камуністаў. Я ведаў аб гэтай дзейнасці, але сам тады яшчэ ў партыю не запісваўся. Быў я малаадукаваным чалавекам і трымаўся збоку...

— То ж у вас ёсць пасведчанні, што вы супрацоўнічалі з партызанамі, — заявіў Міхась Вішанка. — Калісьці вы паказвалі мне.

— Нават не адно пасведчанне, а два я маю, — як бы не хочучы, адказаў Зміцер Бадавец. — Адно даў мне Мікалай Бартнічук, а другое атрымаў я ад Грышкі Каравая.

Пачуўшы гэтыя прозвішчы, цікавасць мая яшчэ болей завастрылася.

— Значыць, вы трымалі сувязь з гэтымі партызанскімі камандзірамі? — запытаў я.

— Шчыра кажучы, дык умову на супрацоўніцтва я з гэтым Караваем не падпісваў. Толькі ведаў, што ён паходзіць з вёскі Ставішчы, што знаходзіцца за станцыяй Чаромха. Раней я з ім не сябраваў, але чуў пра ягоную партызанскую зухаватасць. Па-рознаму людзі ацэньвалі ў нас яго паводзіны. Здаралася і так, гаварылі, што Грышка Каравай найперш страляў, а ўжо пасля пытаў, ці вінаваты...

І тут Зміцер Бадавец расказаў мне пра здарэнне,якое давяло яго да знаёмства з Рыгорам Караваем. Гэта аднак асобная гісторыя.

**Віктар Рудчык**

# СОННІК

## 101

**Сетка** — памысныя інтарэсы; закідаць — нячыстыя інтарэсы; парваная — абясшкодзіш хітрасць; падвох; вязаць — радасць.

**Сеяць** — багацце, шчасце і здароўе.

**Сіло** (пастка на птушак) — хтосьці намагаецца табе пашкодзіць.

**Сіняк** — фальшывы прыяцель.

**Сіп** (сэмп) — табой зацікавіцца выдатная асоба.

**Сіроп** — наіўныя зычанні.

**Сірэну** чуць — фальшывая прысяга.

**Сіта** — марнатраўства; купляць — калатня ў сям'і; сеяць на ім — тваю просьбу адкінуць.

**Скакаць** — вызваленне з даўгоў, непрыемных абавязкаў.

**Скалечыцца** — радаснае спатканне.

**Скалы** — дасягнуць вызначаную мэту; разбіцца на іх — доўга затрымацца ў падарожжы; увайсці на іх — здзяйсненне зычанняў; упасці з іх — страціць прыяцеляў.

**Скандал** — цяжкасці, перашкоды .

**Скарб** — неспадзяваная радасць; капаць, шукаць — няздзейсненыя надзеі.

**Скарбніца** — многа страху, пярэпалаху.

**Скарбонка** — павольнае павелічэнне маёмасці.

**Скарга** — цябе чакае радасць.

**Скіпетр** — важная пасада.

**Склад** — рост інтарэсаў; на чыгунцы — каштоўны падарунак здалёку.

**Складаць** — іншыя турбуюцца пра тваю будучыню.

**Склеп** (піўніца) — вялікі — змена месца жыхарства; малы — нездавальненне; спускацца ў яго — шчасце; быць у ім — хвароба; калі ўваходзяць іншыя — пазбудзешся ворагаў.

## БЕЛАРУСІКІ


Gruszecki K(ajetan), Droga do ropy i gazu (Budowa linii kolejowej przez zachodnią Syberię), Wielka tama przegrodzi dwa morza, Symbole nowoczesności Białorusi, korespondencja z Moskwy. *Trybuna Ludu* 1976, nr 219, 223 231, s. 6, il.

Gruszecki K(ajetan), Prezentacja polskiej kultury na Białorusi, Dekada polskiej książki w Republice Białoruskiej, Wśród górników Białorusi, Przyjaźń stara i nowa, Dni Literatury Polskiej na Białorusi, korespondencja z Moskwy, ZSRR. *Trybuna Ludu* 1976, nr 240—242, s. 2, nr 250, s. 8.

Grzymkowski Jerzy, Sąsiedzkie wizyty (Stosunki Mazowsza z Białorusią i obwodem Usti w Czechosłowacji). *Barwy* 1974, nr 1. s. 10.

Guldon Zenon, Związki handlowe południowo-zachodniej Białorusi z Gdańskiem w pierwszej połowie XVIII wieku. *Zeszyty Naukowe* Uniwersytetu Mikołaja Kopernika w Toruniu Nauki Humanistyczno-Społeczne 1967, z. 24, Historia z. 3, s. 29—39, tab.

Guldon Zenon, Eksport żelaza świętokrzyskiego na Litwę i Białoruś na przełomie XVI i XVII w. *Rocznik Świętokrzyski* t. 6, 1977, s. 11—20, tab.

Guldon Zenon, Wywóz żelaza z Korony na Litwę i Białoruś w początkach XVII wieku. *Kwartalnik Historii i Kultury Materialnej* 1978, nr 2, s. 193—196, tab., res.

Gulickij Nikołaj, Stranicy istorii biełorusskoj pieriewodnoj leksikografii. *Slavia Orientalis* 1984, nr 3/4, s. 365—374.

Gurina Nina, Nowyje dannyje o kamiennom wiekie siewierno-zapadnoj Biełorussii, Moskwa 1965. Głosik Jerzy, *Rocznik Białostocki* t. 8, 1967, s. 475—477.

Gutorow Iwan, Folklorystyka białoruska (1945—1965), tł. Anna Bagrowska. *Literatura Ludowa* 1966, nr 1, s. 47—52.

Hackievič A.F., Polskije internacyonalisty w borbie za włast Sowietow w Biełorussii, Mińsk 1967. Rec. Deruga Aleksy, *Acta Baltico-Slavica* t. 7, 1970, s. 302—305.

Hajduk Mikołaj, Białoruskie wiosenne pieśni obrzędowe na Białostocczyźnie (oraz) Teksty i zapisy nutowe. *Studia Polono-Slavica-Orientalia, Acta Litteraria* 1981, t. 7, s. 279—310, nuty.

Hajduk Mikołaj, Białoruskie obrzędowe pieśni narodzinowe na Białostocczyźnie. *Studia Polono-Slavica-Orientalia, Acta Litteraria* 1985, t. 9, s. 163—187.

Haluch Tadeusz, Kazachski spichlerz, Znaki czasu, Korespondencja z ZSRR, Białorusi. *Perspektywy* 1976, nr 45, s. 19—21, nr 46, s. 6—7, il.

Hapawa W.L., Zmienliwaje i spradwiecznaje. Wopyt typałahicznaha dasledawannia biełaruskaj i polskaj „wiaskowaj prozy", Mińsk 1975. Rec. Stochel Włodzimierz, *Slavia Orientalis* 1978, nr 1, s. 123—125.

Hartny-Ciszka, Mojej ziemi (w), tł. z białor. Tadeusz Chróścielewski. *Nadodrze* 1977, nr 22, s. 7.

Histarycznaja leksikałohija biełaruskaj mowy, Minsk 1970. Rec. Witkowski Wiesław, *Slavia Orientalis* 1972, nr 3, s. 352—356.

Historyja Biełaruskaj SSR, U piaci tamach, t. 1—3, Mińsk 1972—1973. Rec. Kosman Marceli, *Przegląd Historyczny* 1975, z. 4, s. 669—671.

Hozler Jerzy, Mozaika polityczna Drugiej Rzeczpospolitej, Warszawa 1974.

Hrieczannikow Anatol, Z promu (w), tł. z białor. Piotr Stefanowicz. *Życie Literackie* 1977, nr 45, s. 20.

Hrynbłat M.J., Etiudy pa biełaruskaj anamastycy. Wieści Akademii Nawuk Biełaruskaj SSR. Sieryja Hramadskich Nawuk 1965, nr 4. Rec. Kondratiuk Michał, *Acta Baltico-Slavica* t. 5, 1967, s. 451—543.

Hryckiewicz Anatolij, Warowne miasta magnackie na Białorusi i Litwie, tł. Józef Dancygier. *Przegląd Historyczny* 1970, z. 3, s. 428—444.

Hryckiewicz Anatolij, Milicje miast magnackich na Białorusi i Litwie w XVI—XVII w. *Kwartalnik Historyczny* 1970, nr 1, s. 47—62, tab.

Huszcza Jan, Z poezji białoruskiej. *Poezja* 1969, nr 6, s. 54—61.

Huszcza Jan, Z poezji białoruskiej (Antologia). *Osnowa* 1970, Wiosna, s. 20—24.

Huszcza Jan, Mińsk, Nowogródek, Wilno (Literatura białoruska i litewska a literatura polska). *Profile* 1971, nr 11, s. 30—34, il.


**Р.С.**



## У АБАРОНУ ПАМЯЦІ!

**(Працяг са стар. 3)**

ў даліне рэчкі Свіслач, уздоўж якой семсот гадоў таму назад праходзіў вядомы шлях з Польшчы ў Беларусь і Літву, на Гродна і Вільню ад Гарадка, Нарвы, Бельска, Драгічына і Любліна. На след гэтага, важнага для навукі Ласінянскага могільніка навяла тутэйшая легенда пра два вяселлі, з якіх адно нібы ехала ад шлюбу ў царкве, а другое да шлюбу, і адно аднаму не хацела ўступіць дарогі, што скончылася разаніною, і ўсіх пахавалі на тым месцы як грэшнікаў... Легенды, калі ўмець зразумець іх, часта паказваюць на сапраўдныя гістарычныя месцы, як, напрыклад, вядомыя быліцы пра „шведскія акопы".

Больш як паўтысячы гадоў даўнім могільнікам у Гаркавічах і ў Кляшчэлях. У Гаркавічах гэты старажытны могільнік знаходзіцца на ўзвышшы недалёка ад багоннай рачулкі, за сядзібаю Бондараў. Да гэтага могільніка яшчэ не дацягнулася рука цяперашняга дзікага чалавека, як гэта здарылася ўжо ў Шудзялаве, у якім развалілі даўні могільнік для будовы новага школьнага будынка (косці і чарапы валяюцца навокал). Дзіва, як гэта людзям не ганебна вычаўпаць такое! Не кажучы ўжо пра тое, што знішчаючы могільнік, знішчаем памяць пра мінулае, знішчаем і пашану да чалавека, пасля чаго аблудна кажам, што людзі цяпер не шануюць самі сябе. Нашы продкі былі больш людскія, чым мы.

Трэба баяцца і за лёс цікавага і маляўнічага могільніка, што знаходзіцца на высознай гары за Кнышэвічамі. На ім захавалася некалькі каменных фігур, якія, магчыма, равеснікі Ягайлу і Вялікаму княству Літоўскаму... Кнышэвіцкі могільнік спрабавалі рабаваць якіясьці шукальнікі скарбаў. Не дай Бог, калі нейкая фірма завозьмецца капаць там жвір: усё знішчаць! Так знішчаюць гістарычную Шыбеніцу каля Крынак, на якой пагаспадарыў сваімі бульдозерамі мясцовы ПГР. У Крынках былы начальнік гміны дадумаўся ўчыніць яшчэ страшнейшае: наладзіў быў прамысловую здабычу помнікавага камянёўя на яўрэйскім могільніку, якому каля чатырохсот гадоў. На шчасце, не сцярпелі гэтага некаторыя крынкаўцы, і вёрткага начальніка, закаханага ў грашах, не толькі знялі з пасады, але і суд над ім зрабілі.

**(ся)**

## ДВУХ З СЯМ'І „НІВЫ"

Па справах стражніцтва прыроды выбраўся я ў Белавежу. Наведаў пры нагодзе там карэспандэнта „Нівы" Пятра Байко, і мы вельмі сардэчна прывіталіся (што відаць і на здымку: ён — злева). Схадзілі мы на жвіроўню, агледзець помнікі прыроды — магутныя валуны. Убачылі там, рэдкі цяпер, след ваўка, які застаўся на засохлай балоцінцы. Воўк — гэта санітар лесу, які ачышчае яго ад усякай падлы, а таксама хворых, таму лёгкіх на здабычу, звяроў.

Пятро — надзвычайны праваднік па пушчы, ён улюбёны ў яе. Шмат расказаў цікавага, і так мы дайшлі да гасцінца на Броўск, па якім ездзілі калісьці князі нашы літоўскія і польскія каралі, і расійскія цары. Старадаўняя дарога, шлях на Вільню і Гродна. Абсаджаная яна дубамі, яварамі, бярэзінай і таполямі. Паварочваем у вуліцу Трапінка, якая шчасліва захавала сваю гістарычную назву, не перахрысцілі яе на ліха ведае якую іншую... Каля славутага парка ўпаткалі мы гасцей з Нямеччыны і Англіі, уся Еўропа хоча пабачыць нашу Белавежскую пушчу, бо нідзе ўжо такой няма. Крыху сорамна было, што ставы зарослыя страшэнна і ангельцы, гледзячы на тое, не могуць сваім здаровым розумам зразумець, чаму ніхто ў Белавежы не дадумаецца ачысціць тыя ставы?!...



Цікава правёў я гэты дзень з Пятром Байко. Мне, карэспандэнту „Нівы", прыемна было пабачыцца і падыскутаваць з ім, таксама карэспандэнтам нашага роднага часопіса. Думаю, што ўсе карэспандэнты павінны наведваць адзін другога, будаваць дружную сям'ю „Нівы". Мне кожны наш карэспандэнт робіцца блізкім, як сваяк які.

**Андрэй Гаўрылюк**







Міхась Вішанка, калі мы апынуліся ў яго роднай вёсцы Мікулічы, завёў мяне найперш да **Дзмітрыя Бадаўца.**

— Гэты чалавек можа табе шмат чаго цікавага расказаць аб партызанскай дзейнасці на нашай тэрыторыі.

У час акупацыі дзядзька Зміцер быў ужо жанатым чалавекам, бацькам дваіх дзяцей. У 1937 годзе аддзяліўся ён ад бацькоў і пасяліўся на хутары за вёскай у лесе.

— Колькі год было вам у 1941 годзе? — пацікавіўся я.

— Я з дзесятага, палічыце самі.

Палічыць, сапраўды, не цяжка.

— Калі Гітлер пайшоў вайною на Саветаў, — прадаўжаў Зміцер Бадавец, — дык я знаходзіўся пад Кобрынам, служыў у будаўнічым батальёне, будавалі мы ваенны аэрадром. Працавалі цяжка, ад світання да цямна, як катаржнікі, бо камандаванне спяшалася, пастаянна нас падганялі, каб хутчэй і хутчэй. Нават у выхадныя дні не давалі палёгкі. Дык ужо па гэтай паспешлівасці можна было меркаваць, што рыхтуецца штосьці нечаканае...

Я не перапыняў гэтых успамінаў дзядзькі Зміцера, хаця не адзін раз ад іншых старэйшых людзей чуў і запісваў расказы аб гэтай паспешлівай падрыхтоўцы да абароны заходніх рубяжоў краіны ад фашысцкай агрэсіі. Гэта пазней сталінскія падлізнікі прыдумалі і шырока распаўсюдзілі тэзіс аб нечаканым нападзенні, ад якога не было ратунку. Нечаканасць гітлераўскай агрэсіі зводзілася ў першую чаргу да таго, што Чырвоная Армія не была падрыхтавана да якіх-колечы рашучых ваенных дзеянняў, бо яе раззброілі масавыя, нічым не апраўданыя, жудасныя рэпрэсіі, якія адвучылі высокапастаўленых военачальнікаў ад самастойнага мыслення. Нават пасля нарушэння граніцы, пасля масавых бамбардзіровак прыгранічных раёнаў, яны чакалі загадаў „зверху".

Зміцер Бадавец і яго сябры па „стройбату", як тады называлі іх будаўнічы батальён, нічога, вядома, не ведалі аб гэтых закулісных справах вялікай палітыкі. Былі яны салдатамі, але зброі ім не давалі, ваявалі яны лапатамі.

— Нанач заганялі нас у нейкую мураваную абору, якая стаяла на панадворку апусцелага магнацкага маёнтка, і там мы спалі...

Гэты спамін адбіўся халоднымі дрыготкамі на твары селяніна.

— Тады ў нядзелю, — прадаўжаў дзядзька Зміцер, — разбудзілі нас магутныя выбухі. Вогненнай хваляй нясліся яны ад дзейснай часткі нашага аэрадрома. Многія з нас, салдат-„стройбатаўцаў", мелі за сабою ваенную службу ў Польскім Войску. Дык няцяжка было зразумець, што абазначаюць гэтыя выбухі.

І раптам затрасліся мураваныя сцены, з вокан пасыпалася шкло, запахла порахам і дымам. „Стройбатаўцы" кінуліся да дзвярэй. Яны не паддаліся.

(Працяг са стар. 3)

вы нічога не навучылі, ані следу новага разумення бегу падзей! Мелі месца, так сказаць, парадаксальныя інцыдэнты, калі, на наш розум, натуральных саюзнікаў польскай санацыі ў падполлі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў гадах 1941-1944 зніштажала АК толькі таму, што яны дэманстравалі сваю беларускасць. А беларускае заўсёды наклікала на іх памяць нешта савецкае, бо беларусаў трактавалі як „савецкую выдумку“. На думку эміграцкага лонданскага ўрада, мы павінны былі быць усходнімі палякамі і нікім іншым. Так, па шчырасці, можна скараціць і дэфініяваць тыя польска-беларускія зносіны ў нямецкую акупацыю.

Праўда ў вочы менш калола пасля майго выступлення з дакладам, у якім прабегся я праз тысячу гадоў Беларусі і больш паўтысячы гадоў беларуска-польскіх зносінаў культуры перш за ўсё. „*Жывых сведкаў падзей*“ не знайшлося, вядома, таму і дыскусія была меней прыдзірлівай, ніхто не пярэчыў, што... дождж падае, калі ён сапраўды падаў. Пачаткі гэтых зносінаў у заняпадзе Полацкай Зямлі, якая імкнулася выйсці на Балтыйскае мора, прасоўваючыся ўздоўж Дзвіны. Паслужыўшы падставай экспансіі будучаму Вялікаму княству Літоўскаму, нарастала ў Старой Беларусі з'ява правінцыянальнасці, асабліва пасля т.зв. Крэўскай уніі. Гэтая правінцыянальнасць з'явілася вынікам саюза слабейшага з мацнейшым, паміж развітым Каралеўствам Польскім і паступова глухнучым у абцугах тэўтонаў і татара-манголаў Вялікім княствам Літоўскім, якое ўжо ў палове XVI ст. не мела мацаты адбіць агрэсію Івана




Грознага. Зносіны тыя безупынна адбываліся ў пасольскую карысць, а паланізацыя ў XIX ст. кранула нават народныя беларускія масы. Такая логіка гісторыі, такая фізіка ўздзеяння цвярдзейшага на мякчэйшага.

Яраслаў Яновіч выступіў з невялікім дакладам пра зніштажэнне беларускіх назваў мясцовасцей і ўрочышчаў у Беластоцкім краі, што — трэба падкрэсліць — выклікала ў прысутных пазітыўнае асуджэнне.

З дакладам пра адносіны рыма-каталіцкага духавенства да беларусаў выступіў Збігнеў Гаеўскі, лекар з Сахачэва, што за Варшаваю. Даклад быў слабенькі, аматарскі, пабудаваны больш на чутках, чымсьці на фактах і салідных гісторыязнаўчых ведах. Рыхтык ён знакамітая ілюстрацыя таго, як мала або і анічога не ведаюць палякі пра беларусаў, з якімі калісьці будавалі адну дзяржаву, Першую Рэчпаспалітую. Але дзякуй і за тое!

А наогул, дык што паказаў гэты сімпозіум? А тое, што ў польскім грамадстве надзвычай раптоўна пашыраецца цікавасць да Беларусі, да Украіны, да Літвы (літоўцы, традыцыйна, ігнаруюць польскія запрашэнні, так здарылася і ў гэты раз). З'яўляецца штораз больш публікацый, прысвечаных усходнім суседзям і іхным меншасцям у Польшчы. Выйшла шэраг асобных кніжак і тамоў даследаванняў, не лічачы публіцыстыкі (што відаць, дарэчы, і па „Беларусіках“ у нашай „Ніве“). І гэта трэба лічыць галоўным здабыткам сімпозіума: **усяляк аслабляць польскі нацыяналізм, які можа забіць нашу меншасць тут!** Для гэтага трэба ўзыходзіць на кожную трыбуну, бо не так важна, дзе ты гаворыш, як важна, што менавіта гаворыш!

**С. Яновіч**




### ЯК ПАДРЫХТОЎВАЦЬ МЯСА

Смажанае мяса будзе намнога больш далікатным, калі на гадзіну перад пачаткам яго падрыхтоўкі мы змажам яго муштардай, а пасля памыем.

Каб смажанае мяса хутчэй мякчэла, можна спырснуць яго слабым растворам воцату або яшчэ лепш — лімонным сокам.

Пячонка будзе мякчэйшая, калі перад тым, як будзем яе смажыць, памочым яе ў малацэ.

Калі хочам падрыхтаваць катлеты на пары, трэба палажыць іх на друшляк, накрыць пакрыўкай і ўставіць у каструльку з кіпячай вадой, так, каб яе ўзровень не дасягаў дна друшляка.

Катлеты будуць больш мяккія і пульхныя, калі ў змеленае мяса дадзім крыху сцертай на тарцы бульбы ці смятаны.

Каб печаная птушка мела прыгожую скурку, трэба яе перад гэтым змазаць смятанай.

### ЯК ПАДРЫХТОЎВАЦЬ РЫБУ

Салоную рыбу трэба мачыць у вадзе, якую некалькі разоў трэба змяняць.

Марожанае філе з рыбы рэкамендуецца размарожваць у хатняй тэмпературы, не залiваючы вадой.

Рыба будзе мець больш далікатны смак, калі перад паніраваннем памочым яе ў халодным малацэ.

Каб рыба не развальвалася ў часе смажкі, трэба яе пасаліць на 10-15 мінут перад падрыхтоўкай.

Рыба не будзе прыгараць на патэльні, калі да алею, на якім яна смажыцца, дадзім крыху солі.

Рыбу, якую мы хочам падаваць у якасці халоднай закускі, трэба смажыць на алеі.

### ЯК СМАЖЫЦЬ ЯЙКІ

Трэба памятаць, што калі будзем смажыць яйкі на моцным агні, бялок будзе цвярдзейшы, а жаўткі больш мяккія.

Амлет атрымаецца лепшы, калі яйкі добра саб'ем, дадаючы невялікую колькасць мукі.

**Гаспадыня**



(Працяг са стар. 5)

## ТОСТ МАЛАКОМ

гулярна пастаўляецe нам у краму свежае, пастэрызаванае малако! У Рыбалах, для прыкладу...

— ...вёска адна з буйнейшых у ваяводстве, — заўважыў я.

— Так, дык у гэтых Рыбалах патрабавалі, каб кожны дзень дастаўляць туды свежае ды яшчэ тлустае, „поўнае“ малако.

А чаму ж ім не патрабаваць, калі пры гэтым зусім простым, ды цалкам легальным спосабе можна зарабіць яшчэ пару залатовак?! То ж да кожнай бутэлькі малака дзяржава дакладала нейкіх 30 (а то яшчэ і больш) залатовак. Толькі гэтага голым вокам ніколі мы не бачылі. Датацыя ішла акружной, вельмі заблытанай дарогай. Напэўна кожны з нас страшэнна здзівіўся б, калі б у купленай бутэльцы малака знайшоў на дне 30-залатовую манету! А мы сапраўды яе знаходзім, не ведаючы аб гэтым.

— Толькі дазвольце заўважыць, — перапыніў мяне пан прэзас, — што гэтую манету знаходзіў выключна той чалавек, які купляў малако, а хто яго не купляў, дык нічога не меў, атрымоўваў дулю. Выходзіць, што малочнікі карысталіся прывілеямі, а антымалочнікі — былі пазбаўлены гэтых прывілеяў. Значыць, не туды дарога і не гэтым метадам трэба прывіваць любоў да малака. Хай яно каштуе — колькі каштуе, а датацыі накіраваць на рэкампенсацыі ў зарплатах.

Колькі ж тады каштуе малако? Найбольш дакладны адказ на гэтае пытанне апавесціць нам жыццё. Здаецца, чакаць давядзецца нам ужо нядоўга.

**Віктар Рудчык**

Хтосьці падпер дзверы звонку. Навошта? Чаму? Хваля злосці і страху памножылі сілы. Зноў наперлі на дзверы. На гэты раз яны з трэскам адскочылі. Чэрвеньскае сонца, што ўжо высакавата і шчодра асвятляла нядзельны ранак, на момант асляпіла іх. Спыніліся, не ведаючы, што рабіць, куды падзецца.

Паявіўся нейкі камандзір, бег у бок лётнага поля. Прыпынілі яго.

— Гэта манеўры! Гэта вас не датычыць! Заставацца на месцы і чакаць загадаў! — паспешліва распарадзіўся гэты афіцэр і паімчаўся далей.

А ў паветры шалела нямецкая авіяцыя. Бамбардзіроўшчыкі з невялікай высаты кідалі свой смертаносны груз. Штурмавікі з пранізлівым выццём апускаліся на ўзлётныя палосы і сяклі з буйнакаліберных кулямётаў.

— Вялікай бяды яны нам не натварылі, — кажа дзядзька Дзміцер. — Падбілі толькі адзін самалёт. Усе іншыя самалёты па загаду камандавання былі адстаўлены на „прасмотр“. Такая тады ішла гаворка між намі. Я думаю, што гэта была загадзя прадуманая здрада. Нехта спецыяльна абяззброіў Чырвоную Армію ў рашаючы момант.

У час майго ўжо звыш дзесяцігадовага вандравання ваеннымі сцежкамі па нашай Беласточчыне давялося мне выслухаць і запісаць дзесяткі і сотні ўспамінаў і расказаў пра гэты першы дзень гітлераўскай агрэсіі на Савецкі Саюз. І, на мае здзіўленне, меркаванні, што нехта сярод вышэйшага камандавання Чырвонай Арміі здрадзіў, што паўсюдна быў аддадзены загад, каб з суботы на нядзелю, значыць, з 21 на 22 чэрвеня 1941 года, аддаць зброю для прачысткі і агляду, каб салдатам і афіцэрам наладзіць бестурботныя гульні, гэтакія меркаванні заўжды паўтараліся, як прыпеў у песні.

У вядомых дагэтуль дакументах меркаванні аб здрадзе не пацвярджаюцца. Няма дакументальных доказаў, каб нехта сярод вышэйшых камандзіраў свядома і загадзя пайшоў на супрацоўніцтва з гітлераўскай Германіяй.

Здрада генерала Уласава — гэта справа пазнейшая, з перыяду баёў у раёне Ленінграда і Ноўгарада ў маі — ліпені 1942 г. Можа, тады меркаванні аб здрадзе зарадзіліся на глебе нядаўна праведзенай сталінскай чысткі сярод камандзірскага састава Чырвонай Арміі, можа яны паявіліся ў атмасферы зніштажэння „ворагаў народа“, у ліку якіх апынуліся, як мы сёння ведаем, найбольш праслаўленыя, разумныя і заслужаныя палкаводцы Чырвонай Арміі, між іншым, маршал Васіль Блюхер, першы кавалер ордэна Чырвонага Сцяга, расстраляны 9 лістапада 1938 года, і маршал Міхаіл Тухачэўскі, якога расстралялі ў чэрвені 1937 года. Абодвух іх, як многіх іншых камандзіраў Чырвонай Арміі, абвінавацілі ў здрадзе. Цяпер мы ведаем, што гэтае абвінавачанне не мела ніякіх асноў, было правакацыяй з боку гітлераўскай Германіі. Можа тады гэтыя меркаванні з'явіліся рэхам змрочнага часу пагоні за „чараўніцамі“, якіх шукалі па ўсяму Савецкаму Саюзу. Праўда, генерала арміі Зміцера Паўлава, які камандаваў войскамі Заходняй асобай ваеннай акругі, а затым Заходняга фронту, ужо пад канец чэрвеня выклікалі ў Маскву і паставілі перад ваенным трыбуналам за правал абароны заходніх рубяжоў краіны. Яго жыццё абарвалася ў ліпені 1941 г.

Гэта, аднак, усё кулісы вялікай палітыкі, недаступнай радавым салдатам, а тым болей салдатам з будаўнічых батальёнаў, у якія траплялі ў першую чаргу жыхары даўнейшай Заходняй Беларусі.

— Калі мы пераканаліся, — успамінае Зміцер Бадавец, — што камандаванне Кобрынскага аэрадрома паспешліва рыхтуецца да ўцёкаў, бо на нашых вачах пачало грузіць на машыны сваю маёмасць, а намі ніхто надалей не цікавіўся, дык і мы, разбіўшыся на малыя групы, накіраваліся куды вочы панеслі. Я з таварышамі пайшоў у Кобрын, а затым далей на захад, на Брэст.

— І немцы вас не чапалі? — пацікавіўся я, каб падтрымаць гутарку. Дзядзька Зміцер сказаў, што ў нейкай вёсцы яны памянялі ваенную форму на цывільныя лахманы і калі іх сустрэчныя нямецкія салдаты пыталі, хто яны, дык даўнейшыя „стройбатаўцы“ прыкідваліся ўцекачамі з савецкіх турмаў.

— Нам не цяжка было карыстацца польскай мовай, —

(Працяг на стар. 8)

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## 1. УЗНІКНЕННЕ І РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ.

### 3. Помнікі пісьменнасці Вялікага княства Літоўскага.

У XIII — пачатку XIV ст. амаль усе сённяшнія беларускія землі і землі ўкраінскія апынуліся ў Вялікім княстве Літоўскім, а паўночна-ўсходнія і паўднёвыя землі былой Кіеўскай Русі — пад уладай татара-манголаў. У такой сітуацыі, у зусім новых гістарычных умовах пачалі складацца тры ўсходнеславянскія народнасці: беларусы, украінцы і рускія, а разам з імі і тры ўсходнеславянскія мовы: беларуская, украінская і руская.

Сённяшняя назва Беларусь (Белая Русь) з'явілася ў XIV ст.

Пісьменнасць XV ст. на Беларусі — гэта беларускае пісьменства. Мова яго сваімі фанетычнымі, граматычнымі і лексічнымі асаблівасцямі істотна адрозніваецца ад мовы агульнаўсходнеславянскай перыяду X-XII ст. ст.

Беларуская мова склалася на працягу XIV-XVI ст. ст., калі беларускія землі ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага. Яе асноваю была ўсходнеславянская мова, з якой у беларускую мову перайшлі многія фанетычныя, марфалагічныя рысы, а таксама і лексічныя сродкі (словы). Да найважнейшых фанетычных рыс усходнеславянскай мовы, якія выступаюць і ў беларускай мове, трэба залічыць перш за ўсё паўнагалоссе: ворогъ — вораг, середа — серада; узнікненне ч з былых tj kt: свяча, пячы; пачатковае спалучэнне rot з былога ort: розум, розніца і т.д.

У беларускай мове паявіліся такія новыя моўныя рысы, дзякуючы якім беларуская мова і выдзелілася з мовы агульнаўсходнеславянскай. Гэтыя моўныя рысы паказваюць на сувязь старабеларускай літаратурнай мовы з жывой мовай беларускага народа. Пералічу толькі некаторыя, самыя істотныя фанетычныя рысы: аканне і яканне, дзеканне і цеканне, афрыката дж, фрыкатыўны г, фанетычнае падаўжэнне зычных, зацвярдзелы р, зацвярдзенне шыпячых гукаў, пераход в, у, л у нескладовае (ў), прыстаўныя зычныя в, г, зацвярдзенне губных гукаў у канцы слоў. Гэтыя фанетычныя рысы характэрныя і сучаснай беларускай літаратурнай мове.

У Вялікім княстве Літоўскім беларуская мова была мовай дзяржаўных устаноў: на ёй пісаліся акты і граматы, сеймавыя пастановы і іншыя дакументы. Беларуская мова выкарыстоўвалася не толькі на беларускіх землях, але і на землях этнаграфічнай Літвы, выкарыстоўвалася не толькі беларусамі, але і літоўцамі.

Вялікае значэнне ў развіцці старажытнай беларускай мовы, а перш за ўсё яе літаратурна-пісьмовай формы, адыграла кнігадрукаванне, распачатае беларускім вучоным Францішкам Скарынам — першым кнігадрукаром на ўсходнеславянскіх землях. У XVI ст. за Скарынам з'явіліся выдатныя дзеячы старажытнай беларускай культуры і друкары: Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Пётр Мсціславец, браты Мамонічы і іншыя. Кнігі выпускаліся ў друкарнях, якія ўзніклі ў Нясвіжы (1562), Цяпіне (1565), Заблудаве (1568), Заслаўі (1571), Лоску (1574), Слуцку (1580), Любчы (1597), а крыху пазней у Ашмяне Муравай, Магілёве, Менску, Куцеіне (каля Оршы), Буйнічах (каля Магілёва), Бялечніках, Гародні, Супраслі (каля Беластока), Пінску і іншых гарадах і мястэчках.

Буйнаму развіццю беларускай мовы спрыяла таксама і тое, што літоўская пісьменнасць, г.зн. пісьменнасць на літоўскай мове, пачалася толькі з сярэдзіны XVI ст.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Марыльку я сустрэў 2 гады таму назад. Здарылася гэта якраз тады, калі яна была ў роспачы: кінуў яе муж, а на руках было яшчэ малое дзіця. І неяк так адразу сталася, што мы з ёю сышліся, і я быў шчаслівы. У бацькоў Марылькі, да якіх яна вярнулася пасля разводу, была цудоўная віла, і яны з радасцю прынялі і мяне да сябе.

Мы былі з Марыляй у адным узросце, вось сёння нам па 24 гады, але вельмі хутка неяк высветлілася, што ёсць у нас вялікая розніца ў поглядах на жыццё.

Марыля, хаця і не старэйшая за мяне, да жыцця ўжо падыходзіць зусім інакш, найчасцей з пазіцыі маці. Усё клапоціцца пра дзіця, усё яму мые, корміць яго, гуляе з ім — адным словам, усё круціцца вакол маленькага сыночка. Я ўжо часамі адчуваю сябе тут нават непатрэбным. Вельмі часта ў нас пачынаюць узнікаць сваркі — яна хацела б і мяне ўцягнуць ва ўсю гэту сваю валакіту! А я ж хачу аднаго: хачу кахання, якое не абмяжоўвала б маёй свабоды. Іншага кахання не хачу! Хачу кахаць, хачу тварыць, хачу быць незалежным і сустракацца, як і раней, са сваімі сябрамі.

А найгоршае ва ўсім гэтым тое, што Марыльчыны бацькі прыціскаюць мяне, каб жаніўся. Ну, я наогул нічога не маю супраць гэтага. Але чаму ўжо цяпер? Мы ж яшчэ маем перад сабой столькі гадоў жыцця! Чаго спяшацца ў гэтую пастку? Я ж і так ужо часамі адчуваю сябе, быццам птушка ў залатой клетцы... Парай, Сэрцайка, што рабіць, мо табе ўдасца прыдумаць нешта сэнсоўнае.

**Пятрук**

Пятрук! Чаму ты лічыш, што калі вы возьмеце шлюб, то ты апынішся ў пастцы?! Гэта ж тады большасць людзей знаходзілася б „у пастцы". Усё ж такі людзі сустракаюцца, кахаюцца, жэняцца, а лагічнай канселвенцыяй усяго гэтага з'яўляюцца дзеці, супольныя дзеці — найбольшая радасць нашага жыцця і найбольшы боль — калі дзіця нарадзіцца не можа.

Пятрук! Ты да гэтага яшчэ, бадай, не дарос, а твая Марылька дарасла ўжо. Калі кахае яна свайго сыночка, то не абазначае гэта, што не кахае цябе. Ты б хацеў адно гуляць, кахаць, тварыць, а яна, думаеш, не хацела б?! Ды толькі ў яе, апрача гэтага, ёсць яшчэ і абавязкі, якія, як табе здаецца, цябе не павінны датычыць. А чаму? Ты ж прыйшоў у іхнюю хату, жывеш, як родны муж, гаворыш, што нават шчаслівы — дык і дзіця ж не павінна быць табе чужое. Ну, так, але яно ўсё ж не тваё, і ўсе клопаты, звязаныя з яго выхаваннем, — гэта, паводле цябе, толькі яе „валакіта", а не ваша радасць.

Ты жывеш з жанчынай і хочаш, каб твае сябры не змяніліся. А трэба ж табе зразумець, што ўсё радзей будзеш сустракацца са сваімі былымі аднакласнікамі, а ўсё глыбей будзеш уваходзіць у круг яе і вашых агульных сяброў і знаёмых.

Калі ты яшчэ не зразумеў гэтых простых ісцін, хаця ахвотна перайшоў жыць да Марылі, а фактычна ў вілу яе бацькоў, дык грош табе цана як мужу. Сапраўды жаніцца табе, мусіць, рана — ты проста прыгрэўся пры цёпленькай жанчыне з вілай, абавязкаў жа браць на сябе — нават і не думаеш. Дык навошта табе жыць з ёю?! Вяртайся, хлопча, дахаты, або ляці, пархай у новую „клетку" — хаця не будзе яна залатая, туды ты, можа, прынясеш іншае, сапраўднае каханне.

**Сэрцайка**

(Працяг са стар. 7)

# СУВЯЗНЫ БАДАВЕЦ

сцвярджае селянін. — І гэта яшчэ болей пераконвала немцаў, што мы з'яўляемся былымі вязнямі, а яны, гітлераўцы, нашы дабрадзеі, вызваліцелі, дык нас прапускаюць.

Зміцер Бадавец шчасліва вярнуўся на свой хутар за вёскай Мікулічы і зноў стаў гаспадарыць на сваім небагатым палетку.

— Я ў палітыку асабліва не ўмешваўся, — шчыра прызнаецца селянін. — Былі тут у нас іншыя палітыканы, для прыкладу, Валодзя Вішанка або Васька Наумчык. Я іх ведаў. Яны прыналежалі да КПЗБ. І ў іншых тутэйшых суседніх вёсках, значыць, у Рагачах і Мядзвежыках, таксама дзейнічалі ў даваенны час ячэйкі камуністаў. Я ведаў аб гэтай дзейнасці, але сам тады яшчэ ў партыю не запісваўся. Быў я малаадукаваным чалавекам і трымаўся збоку...

— То ж у вас ёсць пасведчанні, што вы супрацоўнічалі з партызанамі, — заявіў Міхась Вішанка. — Калісьці вы паказвалі мне.

— Нават не адно пасведчанне, а два я маю, — як бы не хочучы, адказаў Зміцер Бадавец. — Адно даў мне Мікалай Бартнічук, а другое атрымаў я ад Грышкі Каравая.

Пачуўшы гэтыя прозвішчы, цікавасць мая яшчэ болей завастрылася.

— Значыць, вы трымалі сувязь з гэтымі партызанскімі камандзірамі? — запытаў я.

— Шчыра кажучы, дык умову на супрацоўніцтва я з гэтым Караваем не падпісваў. Толькі ведаў, што ён паходзіць з вёскі Ставішчы, што знаходзіцца за станцыяй Чаромха. Раней я з ім не сябраваў, але чуў пра ягоную партызанскую зухаватасць. Па-рознаму людзі ацэньвалі ў нас яго паводзіны. Здаралася і так, гаварылі, што Грышка Каравай найперш страляў, а ўжо пасля пытаў, ці вінаваты...

І тут Зміцер Бадавец расказаў мне пра здарэнне, якое давяло яго да знаёмства з Рыгорам Караваем. Гэта аднак асобная гісторыя.

**Віктар Рудчык**

# СОННІК

101

**Сетка** — памысныя інтарэсы; закідаць — нячыстыя інтарэсы; парваная — абясшкодзіш хітрасць; падвох; вязаць — радасць.

**Сеяць** — багацце, шчасце і здароўе.

**Сіло** (пастка на птушак) — хтосьці намагаецца табе пашкодзіць.

**Сіняк** — фальшывы прыяцель.

**Сіп** (сэмп) — табой зацікавіцца выдатная асоба.

**Сіроп** — наіўныя зычанні.

**Сірэну** чуць — фальшывая прысяга.

**Сіта** — марнатраўства; купляць — калатня ў сям'і; сеяць на ім — тваю просьбу адкінуць.

**Скакаць** — вызваленне з даўгоў, непрыемных абавязкаў.

**Скалечыцца** — радаснае спатканне.

**Скалы** — дасягнуць вызначаную мэту; разбіцца на іх — доўга затрымацца ў падарожжы; увайсці на іх — здзяйсненне зычанняў; упасці з іх — страціць прыяцеляў.

**Скандал** — цяжкасці, перашкоды .

**Скарб** — неспадзяваная радасць; капаць, шукаць — няздзейсненыя надзеі.

**Скарбніца** — многа страху, пярэпалаху.

**Скарбонка** — павольнае павелічэнне маёмасці.

**Скарга** — цябе чакае радасць.

**Скіпетр** — важная пасада.

**Склад** — рост інтарэсаў; на чыгунцы — каштоўны падарунак здалёку.

**Складаць** — іншыя турбуюцца пра тваю будучыню.

**Склеп** (піўніца) — вялікі — змена месца жыхарства; малы — нездавальненне; спускацца ў яго — шчасце; быць у ім — хвароба; калі ўваходзяць іншыя — пазбудзешся ворагаў.

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## БЕЛАРУСКАЯ КАЗКА




Быў дзед і баба, былі ў іх дзве дачкі: у дзеда была дачка і ў бабы была дачка. Жылі яны, жылі. Абрыдзела мачасе ўжо дзедава дачка. Кажа яна дзеду:

— Завязі ты гэту сваю дачку, дзед, каб яе не было. Так ужо яна мне надаела.

Дзеду ж запякло ў сэрцы, дзе ж ён яе рад везці. Ну, але што ж рабіць? Так уела добра, што мусіў. Узяў саначкі, пасадзіў яе.

— Паедзем, дачушка, у лес, будзем там дроўкі збіраць.

Вось гэта дзяўчынка сабралася, узяла хлеба кусочак нейкі. Прыехалі яны ў той лес. На курынай ножцы стаіць хатка. Дзед усадзіў дачушку ў гэту хатку.

— Сядзі, — кажа, — дачушка, і чакай, а я пайду дроўцы сеч.

Узяў прывязаў дошчачку такую, венічак прывязаў. Гэта ўжо будзе трашчаць, там стукаць, будзе ёй нешта выдаваць такое, што гэта бацька робіць. Чакае яна, чакае, ды няма бацькі. Чуе яна: стук-стук калодачка з венічкам ды венічак шась-шась была. Так яна:

— Калодачка — брась, а венічак — шась, мой татулька дроўцы сячэ. А тады шасталашастала, стукала-стукала, ды ніхто не ідзе. Стала ёй страшна. Узяла выйшла, на парог стала і кажа:

— Хто ў лесе,
Хто ў бару?
Прыйдзі, прыйдзі
Ноч начаваць,
Ноч каратаць.

Тады нехта адзываецца:

— Я ў лесе,
Я ў бару.
Прыйду к табе
Ноч начаваць,
Ноч каратаць.

Гэта быў мядзведзь. Яна адказала:

— Не хачу цябе,
Не люблю цябе,
Ты не мой татка,
Не мая мамка.

Гэты мядзведзь не паслухаўся. Так і прысунуўся да гэтай хаткі. І стукае:

(Працяг на стар. 10)

Васіль Зуёнак

### ПАКАТАЎСЯ

Бег на рэчку, на каток,
Бег накоўзацца каток.
А прыбег — і разгубіўся,
Пасярод катка спыніўся:
— Як пачаць? З якой нагі? —
Уваччу плывуць кругі.

Едзе левая направа,
Едзе правая налева,
Едзе задняя наперад,
А пярэдняя назад —

Быццам сто ў яго тых ног
І пад кожнай сто дарог!
І з якой пачаць нарэшце,
Сам ніяк не разбярэшся.
Запытацца трэба ў таты —
І пабег каток дахаты....



### Пішуць школьнікі



**ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!**

Пішa да Цябе вучаніца трэцяга класа Пачатковай школы ў Барысаўцы. Я вельмі люблю беларускую мову. Вучуся добра. І хачу яшчэ лепш пастарацца. Найгорш мне з чытаннем, але як папрацую, то і лепш чытаю.

У кожную пятніцу з нецярплівасцю чакаем на „Зорку“. Вельмі любім чытаць казкі, жарты і артыкулы. Прачыталі казку „Залатая яблынька“. Будзем чытаць і іншыя і рысаваць да іх малюнкі.

Анэта Буйноўская, вуч. III кл.

**ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!**

Піша да Цябе вучаніца III класа Пачатковай школы ў Барысаўцы. Мы ў класе чыталі апавяданне „Жалуды“. Мне спадабалася гэтае апавяданне. Я рашыла зрабіць да яго малюнак.

Дарота Попка

## БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

Авяр'ян Дзеружынскі

### СНЕГІРОК

-Ючь-ючь-ючь,
Ючь-ючь-ю,
Я шчаслівы —
Я пяю.
Доўга
З поўначы ляцеў.
Смачных ягадак
Пад'еў.
А снягі
Ды халады
Не прычыняць
Мне бяды,
Бо агністы
Кажушок
Апрануў я —
Снегірок.



## ЗІМОВАЯ КАЗКА

Я ў казку трапіла... Не трэба
Шукаць яе ў чужой зямлі —
Пад сінявою чыстай неба
Каралы мораў расцвілі.

Няма ні дрэў, ні траў,
Ні кветак,
А толькі белая зіма
Заслала інеем палетак —
Канца і краю ёй няма.

Тут чары, дзівы і загадкі,
Марскія казкі снег прадзе,
Душы тваёй наводзяць згадкі,
Якіх не ўбачыш анідзе.

Здаецца, з вечнасцю зліліся
Краса зямная ў снах жывых
І светам зорак разліліся
На каралах снегавых.

Ніна Аксёнчык, Мінск

Хведар Жычка

* * *

Клапатлівы гаспадар —
Снежны месяц снежань
Шчодра сыпле на абшар
Чысціню і свежасць.

Ходзіць ціха, без вятроў,
Без сляпых мяцеліц,
Ля дуброў і ля бароў,
Ля падкоў-аселіц;

Вяжа з ваты світары,
Сосны апранае,
Елкам даў на каўняры
Футра гарнастая.

## З ДАЛЁКАГА І БЛІЗКАГА



На гэтым здымку бачым раннюю маладосць і глыбокую старасць у згодным сужыцці. Бабуля Вольга Дарашук са Старога Корніна не ўсё можа цяпер зрабіць сама. І як добра, што вучаніцы мясцовай школы маюць вялікі дар — ахвоту і здольнасць памагаць бабулі. Купляюць і прыносяць ёй патрэбныя рэчы, чысцяць і парадкуюць яе хату і г.д. А яшчэ і здымак будзе на доўгую памяць сабе і сваім дзеткам, бо такі дар трэба перадаваць.

Фота У. Завадскі

## БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫЧНЫЯ ІНСТРУМЕНТЫ




Басэтля, бас, кантрабас.

Па форме падобная да віяланчэлі, але большых памераў. Дае ў ансамблі акампаніямент скрыпкам, гармоніку, цымбалам.

Загадкі на ёлку

**ПРАЦАВІТАЯ**

Назбірала арэхаў
Пяць мяхоў і паўмеха,
Насушыла грыбоў
Аж дванаццаць карабоў,
Нацягала шышак горку
Працавітая в.......

**ЗІМОЎКА**

Хоць таўстун занадта ласы,
На зіму сабе прыпасы
Па крупінцы не збірае,
Бо заўжды наедак мае:
Спаць кладзецца, скіне тапак —
І паціху смокча лапу,
А вясна дыхне ледзь-ледзь —
Прачынаецца м.........

## ДЗЕДАВА ДАЧКА І БАБІНА ДАЧКА Ў ХАТЦЫ НА КУРЫНАЙ НОЖЦЫ

(Працяг са стар. 9)

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, адчыніся!

Вось яна ўзяла і адчыніла хату. Адчыніла, тады кажа ён да яе:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, перастаў мне ножкі!

Узяла яна і перапставіла. Тады:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, звары мне есці!

— А мой панок, а мой медзвядзёк, з чаго ж гэта табе звару? Я сама не маю чаго есці.

Такая была пакорная яна. Мядзведзь тады кажа:

— Улезь у маё вуха правае, а з левага вылезь, там знойдзеш усяго.

Тут гэта дзяўчына ўзяла гэтак і зрабіла: улезла ў правае вуха, вылезла з левага. Знайшла мукі там, сала, бульбы набрала — усяго. І яна ўзяла ежу навырыла. Таўчэ яна кашу. Падляцела мышка.

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, дай мне кашкі.

Яна ёй гэтай кашкі і кіне. Мышка з'ела. А ён:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, з кім ты там гаворыш?

— А ні з кім. Тут мышка прыляцела.

— Дай мышцы па лабышцы.

Дык яна стук па лаве, быццам гэта яна мышцы дала. А мышка падляціць зноў, і зноў яна ёй дасць паесці. І гэтак яна абводзіла мядзведзя. Тады мядзведзь:

— Вазьмі мне, дзеўка-дзявіца, руса касіца, пасцялі пасцель.

— А мой панок, а мой медзвядзёк, з чаго я табе пасцялю?

—Рад палення, рад камення, ступу жалезную пад галаву, а бараной накрыцца.

Вось так. Ну, яна яму і пасцялала. Лёг гэты мядзведзь, на печ ужо забраўся. А ёй даў званочак.

— Звані, каб мне весялей спаць было.

Ну, мышка ўжо падляцела.

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, дай мне гэты званочак, а ты сама схавайся.

Яна, гэта дзяўчына, узяла і схавалася. А мышка то ў адным кутку зазвоніць, то ў другім. Як зазвоніць, дык ён туды і пусціць бараной адразу. І тады пытаецца:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, ці жыва?

Дык яна:

— Жыва, жыва, ды не дужа, — адазвалася.

Тады зноў дзілін, дзілін, дзілін — у другім кутку, ён у гэты куток. І так ён смаліў, смаліў, гэты мядзведзь, ва ўсе куткі і выкідаў усё з печы.

— Ну, што, — папытаўся, — дзеўка-дзявіца, руса касіца, ці жыва?

Адказала ўжо слабым галаском, але і жыва. Тады злез.

— Ну, дзеўка-дзявіца, руса касіца, будзем ужо ж есці.

Пад'елі.

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, ці хочаш ты да бацькі ў госці?

— Чаму ж бы я, мой панок, мой галубок, не хацела?

— Ну дык вось, едзь, калі хочаш. Ты мне служыла добра — я цябе адпраўлю.

— Дык я ж не маю ні коней, ні ў што ўбрацца; якая ж я буду госця там, бедная?

— Нічога, лезь у маё вуха правае, вылезь з левага!

(Заканчэнне ў наст. нумары)

# Слаўныя людзі Беларусі

## РАДЗІМ

Было тое ў даўнія часы. Жыло сабе адно невялікае славянскае племя. Жыло і бяды не знала: працавітае было, то і мела хлеб і да хлеба. Зведалі пра тое чужынцы і вялікім натоўпам хлынулі на іхнюю зямлю. Як толькі змагло, бараніла племя свае землі. Аднак прыхадняў было больш, і мусіла яно пакінуць свае сялібы. Ішло доўга і знайшло сабе зацішны куточак, прыпынілася. Не паспелі людзі разжыцца на новым месцы, як напалі на іх іншыя прыблуды і зноў трэба было ўцякаць куды вочы глядзяць.



Летапісец.

Тады, як пішуць летапісцы ў сваіх хроніках, узначаліў племя мудры і мужны чалавек Радзім і павёў яго на пошукі новай бацькаўшчыны. Небяспечная і цяжкая была тая вандроўка: прабівалася племя праз цёмныя лясы, топкія багны, глыбокія рэкі.

Дзякуючы разважлівасці свайго правадыра Радзіма племя перамагло ўсе перашкоды і прыйшло на раку Сож. Глянулі людзі, а навокал: ураджайныя землі, мурожныя лугі і сенажаці, паўнаводныя, сплаўныя і рыбныя рэкі — жыць тут ды пажываць!

Было іх усяго восем родаў і кожны з іх абраў сабе выгаднае месца: некалькі пасялілася над магутным Сожам, а іншыя над яго прытокамі Бесяддзю, Іпуцю, Проняй. Стаў княжыць у іх мудры Радзім, кіраваў ён абаронай ад наезнікаў, уладкоўваў спрэчкі паміж аднапляменцамі.

Пасля яго смерці княжылі Радзімавы дзеці, унукі, праўнукі. Усё племя жыло згодна і дружна, як родныя, родзічы. І назвалі іх суседнія плямёны радзімічамі — цяпер ужо невядома, ці гэтая назва пайшла ад імя князя Радзіма, ці ад таго, што жылі яны душа ў душу — як родзічы. Вядома толькі, што новую сваю бацькаўшчыну называлі Радзімай.

Так было ці крыху інакш, але вымаўляючы словы: род, родны, родзіч, радзіма, радзіміч — яшчэ і сёння мы чуем імя адважнага і смелага Радзіма — правадыра беларускага племя радзімічаў.

**Мікола Гайдук**

## Вясёлы куточак

Маці:
— Ала, не садзіся на сырую зямлю!
Ала:
— А хіба зямля бывае яшчэ і вараная?

* * *

Настаўніца:
— Саша, чаму ты нічога не ведаеш?
Саша:
— Бабуля казала, калі буду многа ведаць, хутка пастарэю.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



На матацыкліста чакалі ў лабірынце тры небяспечныя месцы. Памажы яму шчасліва праехаць лабірынт. Мэта — выхад уверсе — горка.

## Пазнаёмімся

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 102, кв. 59. Насця Суднікава, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 4, кв. 34. Жэня Бірыч, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 3, кв. 32. Аксана Хадыка, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 57. Віталік Небышынец, 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 55. Вадзім Андык, 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 38. Віталік Лазебнік, 7 клас.

## Вучнёўская творчасць

ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Гэты малюнак паказвае, як Эмілька Мартынюк з Бельска, вуч. I класа правяла канікулы у бабулі ў Зубаве. З найбольшай ахвотай Эмілька вазіла ў возіку лялькі і ката Свавольніка.

**Яўгенія Мартынюк**





**ВОСЕНЬ**

Пажаўцелі лісточкі,
Павучкі ўюць нітачкі.
Сонца грэе слабей,
Ночы ўсё халадней.

Буслы адляцелі
Траўка пажаўцела,
Пуста стала на палях,
Пчолкі спяць у вуллях.

У зацішку сонца грэе,
Штодзень вецер халаднее,
У цяньку сівы мароз
Ён зіму ўжо нам прынёс.

**Юліта Рынгайла**
Пачатковая школа ў Орлі

# Паліфем і Галатэя

**Міфалагічная байка**

Жыў-быў на свеце ў старажытны час
далёкі,
Спакойна жыў і ціха, не ў галоп,
Працалюбівы Паліфем — цыклоп,
Па-нашаму-то значыць — аднавокі.
Жыццё пражыў прыстойна. І астатак
Дзён дажываў сваіх без перамен,
Як і раней, вялікі пасвіў статак —
Выдатным пастухом быў Паліфем.
Не засмучаўся ён, што ўжо старэе,
І не лічыў, які яму пайшоў ад роду год...
Ды закружыла раптам ля яго
Найпрыгажуня німфа Галатэя,
Умела рэй спакусніца вяла.
І закахаўся у яе цыклоп па вушы.
Гатовы быў аддаць ёй сэрца, душу,
Каб замуж тая за яго пайшла.
Стары і розум страціў, і развагу,
І ад людзей павагу.
Ён Галатэяй нават трызніў.
А тая, ведама, наўмысна
Зацягвала цясней вакол яго уток,
Не адступала ад старога ні на крок,
Распальвала яго каханне...
І вось ужо старога дом — яе ўладанне.
І статак перайшоў да Галатэі ў рукі —
І ўсё астатняе, стары цыклоп што меў.
Нарэшце, і яго ўзялі дакукі,
Былы пастух ледзь-ледзь не анямеў,
Калі аднойчы Галатэя ночкай
Яму падаравала ладнага сыночка.
— Чыё дзіцё? — заенчыў тут цыклоп.
— Тваё, тваё, стары, смярдзючы клоп!
Ён — рыхцік ты, твае ўвабраў ўсе рысы:
І без зубоў, як ты, і нават лысы.
Вось і гадуй яго, не клямкай!
Цяпер ты будзеш для дзіцяці нянькай.
Ну, што рабіць было старому Паліфему?
Ён на сябе ўзваліў і гэтае брэмя.
Ледзь споўдаўся, шаптаў адно — „Бяда...",
Бо дзеці сыпаліся, нібы з рэшата вада.
Ён гадаваў прыблудны грэх той жончын.
...Пастух выдатны, ў нянькаў век закончыў.

Хай будуць Паліфема тыя мукі
Для некаторых і ў наш час навукай.

**Уладзімір Правасуд**



# НІЎКА



У нашых прашчураў.

— І на гэта пайшла цэлая скура мамана?

### ПАРАДА

Выдала маці дачку замуж. А праз месяц пытае:

— Ну, дачуся, як ставішся да цябе муж?

— Цудоўна, мама. Што толькі захачу, тое ён і выконвае.

— Значыць, мала хочаш!

### КААПЕРАТЫЎ

Новы працаўнік кааператыву „Світанне" пытае старэйшага супрацоўніка:

— Чаму ў вокнах усюды краты?

— Старшыня хоча, каб мы паступова прызвычайваліся.

### ГАСЦІНЕЦ

— Насця, ты зноў дзяцей у сяло вязеш?

— Дык сорамна да бацькоў з парожнімі рукамі ехаць.



Сустрэўшыся з літаратай закону, прыкінуўся непісьменным.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ!

Сем год запар Петэрсан уставаў кожны дзень як найраней, каб пагуляць з сабакам. І вось сабака памёр.

Петэрсан прачнуўся, як заўсёды, а шостай гадзіне, доўга ляжаў і ўздыхаў і ўрэшце разбудзіў жонку:

— Паслухай, ты не хацела б пайсці са мной пагуляць?

*

Вядомы комік зайшоў нейк з маладзенькай дзяўчынай у шыкоўны рэстаран. Толькі яны селі за стол, як міма прайшоў афіцыянт, які нёс шашлык на шампурах. Дзяўчына, якая ніколі не бачыла гэта экзатычнае для Францыі блюда, усклікнула:

— Што гэта?

— Нічога асаблівага, — спакойна адказаў яе спадарожнік, — гэта ўсё, што засталося ад кліента, які даў маленькія чаявыя.



З „Веснікa Задрыпоніі"

### МАСТАЦТВА І ЖЫЦЦЁ

У непаваге да гледачоў абвінавацілі мы артыста кіно Валерыя Гарбуза, які з'явіўся на творчую сустрэчу з кінааматарамі ў непрыстойным выглядзе. Артыст прыслаў у рэдакцыю ліст, дзе вытлумачыў, што цяпер ён здымаецца ў фільме па казцы Андэрсена „Голы кароль" у загалоўнай ролі. І, на жаль, так выйшла, што, накіроўваючыся на сустрэчу, ён не паспеў пераапрануцца.



### ЦІКАВЫ ВЫПАДАК

Псіхіятр пытае пацыента:

— Ці бываюць з вамі выпадкі, калі вы чуеце чый-небудзь голас, але не ведаеце, хто гэта гаворыць і адкуль?

— Так, бываюць. І даволі часта.

— Цікава, вельмі цікава. Трэба будзе расказаць аб гэтым сваім калегам, — хутчэй сам сабе гаворыць доктар. — І калі ўсё гэта з вамі здараецца?

— Кожны раз, калі звоніць тэлефон і я чую ў трубцы незнаёмы голас.

З суседскага агародчыка.



— Ты чаму ўдарыў мяне клюшкай па рупэ?
— Будзеш ведаць, як гуляць з прафесіяналам...

# Курёзы

### ЛЮБОЎ... З БУТЭЛЬКІ

Не толькі аб караблекрушэннях і нешчаслівых выпадках паведамляе марская пошта — бутэлькі з запячатанымі ў іх пісьмамі. Калі шатландцу Джыму Кэршу стукнула пятнаццаць год, ён напісаў пісьмо, зазначыў зваротны адрас, запячатаў пасланне ў бутэльку і кінуў у мора. Бутэлька праплыла чатырыста міль і аказалася на нарвежскім беразе, дзе яе падабрала чатырнаццацігадовая Экі Олсен. Яна напісала Джыму адказ, паслаўшы яго ўжо звычайнай поштай.

Зараз Джым і Экі больш не пішуць адно другому пісем — стаўшы мужам і жонкай, яны жывуць пад адным дахам.

### НЕЗВЫЧАЙНАЯ ПАДЗЕЯ

Усе чыкагскія газеты вялікімі літарамі надрукавалі паведамленне пра гэту сенсацыю. Што ж здарылася? А нічога! У гэтым і ўся сутнасць, што нічога не здарылася: упершыню за шмат гадоў канец тыдня ў Чыкага прайшоў спакойна — не было ніводнага забойства.




Крычаць звычайна тыя, каго дрэнна слухаюць.